*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№24 (24)**
27 кастрычніка 1995 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Кошт у розніцу — 700 руб.

# Народная Воля


Газета сверстана
на компьютерах
"ЛИНТЕК"

## Прафсаюз работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Беларусі пачаў падрыхтоўку да агульнарэспубліканскай акцыі пратэсту

**Кіраўніцтва прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Беларусі аб'явіла аб пачатку падрыхтоўкі да агульнарэспубліканскай акцыі пратэсту. Рашэнне аб гэтым прынята на апошнім пасяджэнні прэзідыума Савета прафсаюза.**

Паводле звестак БелаПАН, удзельнікамі пасяджэння канстатаваліся факты парушэння ўрадам галіновага тарыфнага пагаднення, калектыўных дагавораў, а таксама пастановы Кабінета Міністраў ад 8 жніўня аб некаторых захадах па фінансаваму аздараўленню прадпрыемстваў. "На большасці заводаў галіны рэзка знізіліся аб'ёмы вытворчасці, растуць запазычанасці па плацяжах за электраэнергію ў бюджэт... па большасці прадпрыемстваў ідзе затрымка выплаты заработнай платы, агульная запазычанасць склала 110 мільярдаў рублёў..." — гаворыцца ў заяве кіраўніцтва прафсаюза аўтасельгасмаша.

Зыходзячы з эканамічнай сітуацыі, якая склалася, а таксама з таго, што ўсе абяцанні ўрада застаюцца нявыкананымі, а Міністэрства прамысловасці, парушаючы працоўнае заканадаўства, адмаўляецца ад разгляду патрабаванняў працоўных у рамках працоўнай спрэчкі, Савет прафсаюза заявіў аб пачатку падрыхтоўкі масавай акцыі пратэсту, якую намечана правесці ў снежні гэтага года. Сярод вылучаемых патрабаванняў — забеспячэнне поўнай нагрузкі прадпрыемстваў, павышэнне заработнай платы і наданне ёй статуса першачарговага плацяжу.

На сёння прафсаюзы работнікаў аўтасельгасмаша налічваюць каля 200 тысяч чалавек.

**Ірына ЛЕЎШЫНА,**
**БелаПАН.**

## Ездзіць становіцца ўсё даражэй

**Як вядома, з 23 кастрычніка плата за праезд у метро павялічылася з 500 да 750 рублёў. Ва ўпраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама растлумачылі гэта недахопам бюджэтных сродкаў на фінансаванне сталічнай падземкі.**

Гарадскія ўлады вырашылі такім чынам часткова кампенсаваць таксама расходы на наземны транспарт. З 1 лістапада бягучага года ў Мінску ўстанаўліваецца тарыф на праезд і правоз багажу ў трамваях, тралейбусах і аўтобусах у памеры 750 рублёў за адну паездку. Льготны білет будзе каштаваць 400 рублёў.

Разавыя білеты за 700 рублёў будуць рэалізоўвацца за поўны кошт, паколькі па 750 рублёў яшчэ не паступілі ў рознічны гандаль. Адначасова да лістапада будуць дзейнічаць набытыя раней разавыя талоны па цане 25, 30, 500 рублёў, а таксама 40 капеек і 250 рублёў.

Месячныя праязныя білеты цяпер будуць каштаваць: на адзін від транспарту — 45 тысяч, на два — 60, на тры — 70 і на ўсе віды — 80 тысяч рублёў. Гэта значыць, што, купляючы праязныя, можна будзе зэканоміць грошы.

**БЕЛТА.**

## Санаторыі-прафілакторыі могуць адысці ў нябыт

**Спынена фінансаванне санаторыяў-прафілакторыяў Віцебскай вобласці, якое здзяйснялася ў апошні час цэнтралізавана.**

Цяпер ім пагражае закрыццё, таму што прадпрыемствы, якія ў свой час далі жыццё гэтым масавым здраўніцам, не ў сілах вярнуць іх пад сваё крыло.

Між тым у 17 санаторыях-прафілакторыях на 340 месцаў, пра якія ідзе гаворка, змаглі б за год адпачыць і паправіць здароўе 18—19 тысяч чалавек.

**Вольга СІДАРОВІЧ,**
**БЕЛТА.**

## Супрацоўнікі Віцебскага АМАПа затрыманы па падазрэнню ва ўчыненні разбойных нападаў на дарогах

**Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, праведзеных днямі супрацоўнікамі ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама, затрымана група асоб, якія падазраюцца ва ўчыненні разбойных нападаў на аўтамабільных дарогах рэспублікі.**

У ліку затрыманых — трое цяперашніх і трое былых супрацоўнікаў Атрада міліцыі асобага прызначэння (АМАП) Віцебскага УУС. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ,**
**БелаПАН.**

## Голас пратэсту з Нью-Йорка

**Афіцыйныя СМІ Беларусі вось ужо амаль тыдзень апавядаюць пра знаходжанне А.Лукашэнкі Амерыцы з нагоды юбілейнай сесіі ААН: і пра тое, як добра ён трымася на трыбуне; і пра розныя ягоныя сустрэчы; і пра амерыканскае надвор'е, якое суладдзі з цудоным настроем беларускай дэлегацыі. Вядома, можна толькі парадавацца за нашу Беларусь, якая прадсталена ранапраным членам ААН і пра якую ведаюць у свеце. Але ж ведаюць у свеце і тое, што самой Беларусі не сё добра. Ведаюць — і пратэстуюць, выказваюць сваю нязгоду з дзеяннямі прэзідэнта Лукашэнкі, у выніку якіх Беларусь паступова страчвае суверэнітэт і нацыянальнае аблічча. Сказаць пра гэта нашаму прэзідэнту вырашылі амерыканскія беларусы, бо тутэйшыя — не могуць па многіх прычынах. На жаль, афіцыйныя СМІ, можна сказаць, не заважылі акцыі пратэсту Нью-Йорку, таму "Народная воля" вырашыла дапоніць агульную карціну знаходжання афіцыйнай беларускай дэлегацыі Амерыцы наступным матэрыялам.**

22 кастрычніка ў Нью-Йорку адбылася акцыя пратэсту амерыканскіх беларусаў з нагоды наведвання прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У акцыі пратэсту браў удзел і старшыня грамадска-асветніцкага клуба "Спадчына" Анатоль Яфімавіч Белы, які і распавёў аб гэтай падзеі.

Акцыя пратэсту была арганізавана Беларуска-амерыканскім задзіночаннем (БАЗА) і іншымі арганізацыямі. Самы чынны ўдзел у акцыі ўзяла і Кліўлендская філія БАЗА, хаця для гэтага сябрам арганізацыі прыйшлося пераадолець 600 міль.

У мітынгу ўдзельнічалі больш за 200 амерыканскіх беларусаў, у тым ліку і вядомыя дзеячы, такія, як Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Антон Шукелойць. Было шмат моладзі, у асноўным тых, хто зараз вучыцца ў амерыканскіх навучальных установах.

Падрыхтоўка да гэтай акцыі вялася загадзя. Быў атрыманы дазвол на яе правядзенне ў гарадской мэрыі. Былі змайстраваны самаробныя плакаты (а кліўлендцы нават змаглі ў мясцовай друкарні аддрукаваць 60 плакатаў), нацыянальныя беларускія і амерыканскія сцяжкі і сцягі, якія потым раздавалі падчас мітынгу.

А 12 гадзіне на 47-й авеню, недалёка ад будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, пачаўся мітынг, які праходзіў амаль тры гадзіны. Выступоўцы з абурэннем гаварылі аб парушэннях правоў чалавека на Беларусі, аб ганеннях на незалежную прэсу, аб тым, што прэзідэнт Беларусі праводзіць палітыку, якая, на іх думку, можа скончыцца стратай рэспублікай суверэнітэту.

Удзельнікі мітынгу давалі інтэрв'ю прадстаўнікам замежных сродкаў масавай інфармацыі.

Пасля мітынгу прысутным было дазволена разам з дэманстрантамі з іншых краін свету прайсціся каля будынку, дзе ў той час праводзілася афіцыйнае святкаванне юбілею ААН. Удзельнікі шэсця неслі плакаты на беларускай і англійскай мовах са зваротамі да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі.

**Запісаў Ігар ХОМІЧ.**

## "Мы не можам пагадзіцца з тымі, хто ставіць пад сумненне ролю ААН у будучым свеце"

**Выступленне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі на спецыяльным урачыстым пасяджэнні Генеральнай Асамблеі ААН, прысвечаным 50-й гадавіне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый**

Паважаны Пан Старшыня!
Паважаныя дэлегаты!
Дамы і панове!

Я вітаю вас ад імя Рэспублікі Беларусь — дзяржавы, якая, нягледзячы на тое, што ўсяго чатыры гады як стала незалежнай, тым не менш уваходзіць у лік краін — заснавальніц ААН.

Беларускі народ унёс дастойны ўклад у перамогу над фашызмам. Апынуўшыся ў самым цэнтры сусветнага пажару, наша рэспубліка страціла звыш чвэрці насельніцтва, але не пакарылася фашысцкай тыраніі.

Ідэя стварэння арганізацыі, здольнай забяспечыць бяспеку ўсіх народаў, выспела ў горне другой сусветнай вайны. Праз паўстагоддзя мы без усякіх сумненняў можам сказаць, што заснаванне ААН было сапраўды гістарычным рашэннем.

Прадухіленне ядзернай катастрофы, крушэнне каланіяльнай сістэмы, ліквідацыя апартэіду, небывалы ўзлёт чалавечага генія ў навуцы і тэхніцы — усё гэта было дасягнута ў значнай меры дзякуючы арганізацыі, пяцідзесяцігоддзе якой мы адзначаем.

Але Аб'яднаныя Нацыі зробяць сёння правільна, калі будуць думаць не столькі аб тым, што зроблена, колькі аб тым, што трэба будзе зрабіць.

На жаль, на парозе трэцяга тысячагоддзя свет усё яшчэ абцяжараны грузам праблем, характэрных для мінулага: войны і ўзброеныя канфлікты ў розных рэгіёнах, тэрарызм і іншыя віды злачыннасці, экалагічныя катастрофы, беднасць і голад і многае іншае пагражаюць будучыні чалавецтва.

Толькі ААН — універсальная арганізацыя, якая ўлічвае інтарэсы ўсіх народаў Зямлі, здольна аб'яднаць намаганні супольніцтва дзяржаў у вырашэнні гэтых праблем. Мы не зможам пагадзіцца з тымі, хто ставіць пад сумненне ролю ААН у будучым свеце.

Я, малады лідэр маладой дзяржавы, не прымаю саму думку аб магчымай смерці ААН, аб якой сёння тут гаварылі.

Калі б мы гэта дапусцілі, то гэта было б злачынствам з боку нашага пакалення лідэраў перад тымі, хто 50 гадоў таму, перамогшы фашызм, стварыў гэты унікальны механізм забеспячэння міру.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

**О чем свидетельствует статистика**

## Январь—сентябрь 1995-го: как поработали?

**Некоторые основные показатели экономики республики в январе—сентябре 1995 года характеризуются следующими данными:**

| | Январь—сентябрь 1995 г. | В % к соответствующему периоду 1994 г. | | Сентябрь 1995 г. в % к августу 1995 г. | Справочно: январь—сентябрь 1994 г. в % к январю—сентябрю 1993 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | январь—сентябрь 1995 г. | сентябрь 1995 г. | | |
| Валовой внутренний продукт, млрд. руб. | 84540 | 89 | 92 | 93 | 76 |
| Продукция сельского хозяйства, млрд. руб. | 57409 | 95 | 99 | 75 | 85 |
| **В колхозах, совхозах и межхозяйственных предприятиях, тыс.т** | | | | | |
| намолочено зерна (на 9 октября, в первоначально оприходованном весе) | 5676,3 | 90 | 77 | | |
| реализация скота и птицы (в живом весе) | 542,7 | 81 | 72 | 91 | 89 |
| произведено молока | 2539,4 | 86 | 87 | 79 | 99,0 |
| средний удой молока от коровы, кг | 1783 | 89 | 90 | 80 | 100,9 |
| получено яиц, млн. шт. | 1467,8 | 101 | 100 | 94 | 94 |
| Ввод в действие жилых домов, тыс. кв. м общей площади | 838 | 54 | 70 | 308 | 72 |
| Среднемесячная заработная плата рабочих, служащих и колхозников, включая материальную помощь и социально-трудовые льготы (предварительная оценка), тыс. руб. | 693 | 1181 | 769 | 105 | 1591 |
| Численность безработных, официально зарегистрированных в службе занятости (на 1 октября 1995 г.), тыс. человек | 120,2 | 120,8 | 101,4 | 156,9 | |
| Внешнеторговый оборот, млрд. руб. | 61259,8 | 100,7 | 68,0 | | |
| Экспорт | 28579,2 | 99,8 | 75,8 | | |
| Импорт | 32680,6 | 101,1 | 61,2 | | |
| Сальдо | -4101,4 | | | | |
| Внешнеторговый оборот со странами СНГ | 40011,3 | 86,2 | 59,0 | | |
| Экспорт | 17256,3 | 77,7 | 58,7 | | |
| Импорт | 22755,0 | 91,7 | 59,5 | | |
| Сальдо | -5498,7 | | | | |
| Внешнеторговый оборот со странами дальнего зарубежья (включая Прибалтийские государства) | 21248,5 | 153,5 | 80,2 | | |
| Экспорт | 11322,9 | 176,5 | 113,3 | | |
| Импорт | 9925,6 | 131,9 | 62,9 | | |
| Сальдо | 1397,3 | | | | |

**(С более подробным анализом итогов работы в январе—сентябре мы познакомим в следующих номерах).**

Народная Воля 27 КАСТРЫЧНІКА 1995 г.

## “Мы не можам пагадзіцца з тымі, хто ставіць пад сумненне ролю ААН у будучым свеце”

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Да таго ж я лічу, што для чалавечага розуму, які зрабіў столькі вялікіх адкрыццяў, пытанне аб тым, як зрабіць ААН больш эфектыўнай і як знайсці для гэтага грошы, не з'яўляецца невырашальнай задачай.

Арганізацыя паказала сваю жыццяздольнасць ва ўмовах халоднай вайны, блокавага процістаяння. Цяпер яна павінна пацвердзіць эфектыўнасць сваёй дзейнасці ў мнагапалюсным свеце.

Галоўнае — не дапусціць новага расколу свету. У сувязі з гэтым мы лічым, што расшырэнне НАТО тоіць у сабе непрадказальныя вынікі для будучыні Еўропы.

Беларусь, размешчаная геаграфічна ў цэнтры кантынента, як ужо не раз бывала ў нашай гісторыі, першай пацярпіць ад новай канфрантацыі.

Я цвёрда перакананы, што на парозе трэцяга тысячагоддзя трэба думаць не аб расшырэнні ваенна-палітычных саюзаў, не аб размяшчэнні ядзернай зброі і не аб павелічэнні ваенных арсеналаў. Наадварот, мы павінны імкнуцца ліквідаваць саму магчымасць узнікнення войнаў, паменшыць або наогул знішчыць запасы ядзернай зброі.

Мы можам гаварыць аб гэтым на поўны голас, таму што Беларусь — першая ў гісторыі дзяржава, якая добраахвотна і без усякіх умоў адмовілася ад ядзернай зброі.

На жаль, мы апынуліся ў парадаксальнай сітуацыі, калі наша прыхільнасць да ідэй раззбраення стварыла для краіны сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці. Мы вымушаны адцягваць сродкі, прадугледжаныя для выканання сацыяльных праграм, на знішчэнне зброі, якая назапашвалася на нашай тэрыторыі ў час блокавага процістаяння.

Я ўпэўнены, што ў кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц “халоднай вайны” возьме верх пачуццё справядлівасці і яны дапамогуць нам у вырашэнні гэтага пытання.

Я сёння ў першую чаргу выдзеліў бы паглыбленне сацыяльна-эканамічных праблем у розных рэгіёнах і раскол свету на бедныя і багатыя краіны.

Вельмі востры сацыяльна-эканамічны крызіс ахапіў цяпер новыя незалежныя дзяржавы.

Разрыў па-жывому адносін паміж народамі, якія складваліся вякамі, не прынёс і не мог прынесці нікому карысці. Таму не трэба здзіўляцца і тым больш апасацца інтэграцыйных працэсаў, што намячаюцца цяпер. Збліжэнне брацкіх народаў — гэта аб'яднанне намаганняў для вырашэння агульных праблем, а не пагроза чыёй бы там ні было бяспецы і інтарэсам.

Я ўпэўнены, што нашы народы непазбежна пераадолеюць існуючыя сацыяльна-эканамічныя цяжкасці.

Упэўнены, што вырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем у Беларусі і іншых краінах, якія ўваходзілі ў састаў Савецкага Саюза, будзе ў інтарэсах усіх аб'яднаных нацый. Мір і бяспека на планеце немагчымы без эканамічнага дабрабыту і сацыяльнай стабільнасці ў новых незалежных дзяржавах.

Ёсць яшчэ адна растучая, у літаральным сэнсе смяротная пагроза бяспецы нашых народаў. Гэта пагаршэнне асяроддзя пражывання. Беларускі народ больш за ўсіх пацярпеў ад буйнейшай экалагічнай катастрофы нашага часу — чарнобыльскай аварыі. Звыш 70 працэнтаў радыеактыўных ападкаў выпала на нашу тэрыторыю. Краіна вымушана адцягваць звыш 20 працэнтаў свайго бюджэту на пераадоленне вынікаў гэтай катастрофы.

Я спадзяюся, што Аб'яднаныя Нацыі не пакінуць народы, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, адзін на адзін з іх бядой.

Новыя пагрозы, з якімі сутыкаецца чалавецтва ў канцы XX стагоддзя, народы не змогуць прадухіліць, калі не адмовяцца ад нацыянальнага эгаізму.

Буйныя дзяржавы павінны думаць не аб дыктаце, не аб падпарадкаванні народаў свайму ўплыву, а аб лідэрстве ў вырашэнні праблем, якія стаяць перад чалавецтвам. І найлепшым інструментам узгаднення інтарэсаў усіх народаў застаецца Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

Мая краіна будзе рабіць усё неабходнае для таго, каб гэта арганізацыя апраўдала тыя надзеі, якія ўскладаюць на яе народы.

Дзякуй за ўвагу.

## Канчатковае заключэнне па выніках расследавання інцыдэнту з паветраным шарам чакаецца праз чатыры—шэсць месяцаў

**Прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Нікалас Бернс выступіў з заявай аб ходзе расследавання інцыдэнту з паветраным шарам у Беларусі.**

У ім, у прыватнасці, гаворыцца, што расследаванне працягваецца ў адпаведнасці з працэдурай, зацверджанай Міжнароднай арганізацыяй грамадзянскай авіяцыі. “Мы далі ясна зразумець беларускім уладам, — заявіў Н.Бернс, — што чакаем поўнай справаздачы аб трагедыі, якая адбылася, і што аднабаковыя выказванні да завяршэння расследавання толькі перашкаджаюць яго правядзенню... Урад Беларусі дэманструе гатоўнасць да супрацоўніцтва ў ажыццяўленні расследавання... Канчатковае заключэнне камісіі з каментарыямі ўсіх яе членаў чакаецца праз чатыры—шэсць месяцаў. Акрамя высвятлення абставін здарэння, заключэнне будзе змяшчаць рэкамендацыі адносна прадухілення падобных трагедый у будучым”.

**Сяргей СНЕГІН,**
**БелаПАН.**

## Чакаецца візіт у Мінск місіі Сусветнага банка

**У першай палове лістапада (арыенціровачна ў 10-х чыслах) чакаецца візіт у Беларусь місіі Сусветнага банка.**

Як паведамілі БелаПАН у прадстаўніцтве Сусветнага банка ў Мінску, мэта візіту — правядзенне перамоў з членамі беларускага ўрада і кіраўніцтвам вядучых галіновых міністэрстваў для каардынацыі стратэгіі аказання Беларусі дапамогі на бліжэйшыя год-два. Такая стратэгія, распрацаваная спецыялістамі Сусветнага банка, ужо існуе, аднак мае патрэбу ў кампетэнтнай ацэнцы экспертамі эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Відавочна, што памеры фінансавай дапамогі краіне будуць прама залежаць ад тэмпаў і эфектыўнасці рэфармавання эканомікі.

**Ірына ЛЕЎШЫНА,**
**БелаПАН.**

## Медвыцвярэзнік павінен працаваць па плану

Пытанне аб мэтазгоднасці ўтрымання ў Сянно медвыцвярэзніка было вынесена на сесію райсавета. Большасць дэпутатаў выказалася за яго захаванне. Аднак у мэтах эканоміі бюджэтных сродкаў вырашылі “ўрэзаць” штаты гэтай установы, а кіраўніцтва ёй ускласці на аднаго з намеснікаў начальніка райаддзела ўнутраных спраў — па сумяшчальніцтву. У той жа час народныя выбраннікі запатрабавалі ад чатырох работнікаў медвыцвярэзніка, якія засталіся ў штаце, “выканання плана паступлення даходаў ад кліентаў”.

**Вольга СІДАРОВІЧ,**
**БЕЛТА.**

**На злобу дня**

# Голову в песок или действовать?

Владимир ЗАБЛОЦКИЙ,
заместитель председателя Комиссии по науке и научно-техническому прогрессу Верховного Совета Республики Беларусь,
Александр МИХАЛЕВИЧ,
директор Института проблем энергетики Академии наук Беларуси

**Энергосбережение. Здесь прежде всего необходимо уяснить два основополагающих момента. Первый — любая затея в области энергосбережения бессмысленна, если не наладить должным образом систему контроля и учета расходования энергии. Второй — мировая практика показывает, что никакие директивные методы, вплоть до самых жестоких, не дают сколько-нибудь ощутимого результата в энергосбережении, если не работает экономический механизм. Люди начнут экономить энергию, когда убедятся, что это выгодно. А это соответствующая тарифная политика.**

(Продолжение. Начало в N 23)

Итак, прежде всего контроль и учет. На наш взгляд, необходимо этот вид деятельности выделить в отдельную строку в государственном бюджете республики. Путем государственного заказа обеспечить выпуск и установку необходимого количества и качества приборов учета и контроля энергии как для предприятий, так и для бытовых нужд. Именно это направление требует в первую очередь государственных субсидий на энергосбережение. Кстати, установка, например, счетчиков тепловой энергии для зданий и сооружений окупается, как правило, в течение года (не говоря уже о регуляторах теплоты), так как обычно мы оплачиваем не только реально потребленное тепло, но и большие потери в системе теплоснабжения, которые фактически никто не контролирует. К сожалению, у большинства организаций нет свободных денег на это в конечном счете прибыльное мероприятие.

Вторым направлением в государственной политике энергосбережения является разработка и принятие законов, нормативных актов, системы тарифов и налогов, стимулирующих энергосбережение. Если эти два направления развиваются параллельно, то они довольно быстро могут дать ощутимый результат. Приведем пример наших соседей. В Литве ввели многотарифную сетку оплаты за электроэнергию (дневной, ночной тарифы и т.д.) и одновременно построили в Вильнюсе современный завод (совместное германо-литовское предприятие) по изготовлению многотарифных счетчиков с электронным блоком памяти. В результате имеют выгоду и предприятия, и жители, и государство, так как многотарифная система способствует более равномерному потреблению электричества, что, в свою очередь, является существенным энергосберегающим фактором. Можно еще привести многие примеры, когда так называемые “организационные мероприятия” дают энергосберегающий эффект. Главное звено в этой цепи — тарифы.

Во всем цивилизованном мире тарифы на электроэнергию и тепло компенсируют затраты на их генерацию, кроме того, для населения они выше, чем для предприятий. Тем самым стимулируется общественно-полезная деятельность и производство.

У нас все наоборот. Под благовидным предлогом социальной защиты граждан наши тарифы делают предприятия топливно-энергетического комплекса убыточными, а дотация за продажу населению тепла и электроэнергии, которая намного ниже себестоимости, покрывается за счет соответственно более высоких тарифов предприятий. В результате теперь нередки случаи, когда 80 и даже 90 процентов себестоимости продукции составляет оплата за энергию (например, в химической промышленности). Предприятия несут убытки, от которых страдают в первую очередь непосредственно занятые в производственной сфере, а затем пенсионеры, служащие и остальные “бюджетники”, поскольку государство не может пополнять свой бюджет от прибыли предприятий.

Эти направления можно считать прелюдией к энергосбережению. Наиболее существенных эффектов можно достичь только при структурной перестройке нашего хозяйства и внедрении новых технологий. Но для этого нужны значительные инвестиции или кредиты, а они появятся не раньше, чем заработают рыночные механизмы экономики.

**Местные топливные ресурсы.** Мы уже упоминали, что в середине 70-х годов Беларусь почти половину своих потребностей в топливе покрывала за счет собственных ресурсов. Главным образом это обеспечивалось высоким уровнем добычи нефти, достигавшим 8 млн тонн в год. Это была пиковая фаза добычи нефти в Беларуси. Сейчас она пройдена, уровень добычи упал до 2 млн тонн в год, и к 2010 году предполагается его понизить до 1,4—1,5 млн тонн в год. Это обусловлено тем, что остаточные запасы нефти оцениваются всего в 70 млн тонн, легко доступная часть нефти уже извлечена. Белорусская нефть весьма высокого качества, с минимальным содержанием серы, но себестоимость добычи ее составляет почти 80 процентов от мировой цены.

Этой нефти сейчас не хватает для производства светлых нефтепродуктов (бензина, дизельного топлива и др.), потребление которых мало снижается, несмотря на экономический спад, и составляет около 7 млн тонн в год. В свое время в Беларуси были построены два крупнейших в Советском Союзе нефтеперерабатывающих завода: Новополоцкий и Мозырский, способных перерабатывать до 40 млн тонн нефти в год. Теперь эти гиганты наполовину простаивают и их необходимо реконструировать на так называемую глубокую переработку нефти.

В Соединенных Штатах Америки значительная часть нефтеместорождений законсервирована и оставлена для потомков, а взамен этого используется более дешевая арабская нефть. Беларусь не имеет выхода к морю, но Литва и Украина сейчас приступают к разработке проекта строительства мощных морских нефтяных терминалов.

В стратегическом плане Беларуси следует учитывать эту перспективу и, возможно, принять долевое участие в осуществлении этого проекта.

Другим видом топлива, который в свое время обеспечивал энергетическую независимость Беларуси, является торф. В настоящее время в республике ежегодно используется 11—11,5 млн тонн торфа для нужд сельского хозяйства и 4,5—5 млн тонн — для коммунально-бытового сектора. Остаточные запасы торфа оцениваются в 260 млн тонн, а при увеличении коэффициента использования залежи — до 400 млн тонн.

Однако к вопросу использования торфа необходимо подходить прежде всего с экологической стороны. В настоящее время более 50 процентов площади торфяных месторождений вовлечены в хозяйственную деятельность, что вызывает достаточно интенсивные процессы минерализации почвы, ветровой и водной эррозии. Поэтому правительство Республики Беларусь приняло в 1991 году решение об увеличении почти вдвое охраняемого торфяного фонда, который в перспективе должен охватить 30 процентов всех торфяных месторождений.

В Беларуси открыты месторождения бурых углей и горючих сланцев, промышленные запасы которых оцениваются в 23 млн и 420 млн тонн нефтяного эквивалента соответственно, т.е. примерно 15 годовых энергетических потребностей республики. Низкая теплота сгорания, высокая влажность и зольность, большое содержание вредных примесей не позволяют использовать этот вид топлива в большой энергетике в прямом виде. Прежде всего по экологическим соображениям. В перспективе возможно применение технологий газификации бурых углей и гидролиза горючих сланцев, но это весьма энергоемкие процессы, и осуществление их возможно только после выхода из энергетического кризиса. Сейчас же реальным вкладом в решение рассматриваемой проблемы может быть разработка технологии изготовления комбинированных брикетов из торфа, бурого угля и, возможно, сланцев. Тогда, не расширяя использование торфа на топливные нужды, можно будет увеличить долю местного топлива примерно на 2 процента в общем энергобалансе республики.

Климатические условия Беларуси не позволяют говорить о сколько-нибудь серьезном использовании энергии ветра и солнца, но у нас есть реальный и экономически выгодный источник замещения импортного топлива — древесная масса. Это отходы деревообрабатывающего производства, маломерная и сухостойкая древесина, кустарниковая растительность и т.д. Сейчас доля дров и древесных отходов в потреблении первичных топливных ресурсов составляет 2,8 процента, а по оценкам экспертов Мирового банка, это количество можно удвоить, не выходя за рамки разрешенного лесоповала в республике и не учитывая 20 процентов леса, который находится на загрязненной радинуклидами территории.

В Институте проблем энергетики Академии наук Беларуси создана экспериментальная установка, на которой из древесных отходов, а также из торфа, мусора и т.д. получается генераторный газ, который затем можно использовать в качестве топлива для котельных и мини-электростанций. Это хорошо забытый старый способ получения энергии, который широко применялся в довоенные и первые послевоенные годы, но затем был вытеснен дешевизной нефтепродуктов.

Газогенераторные установки предпочтительнее печей прямого сгорания из-за более высокого КПД и, что особенно важно для Беларуси, — возможности переработки загрязненной радинуклидами древесины. За прошедшие 8 лет после чернобыльской катастрофы радионуклиды с загрязненной поверхности вследствие вертикальной миграции уже достигают корневой системы деревьев и оттуда транспортируются в кору. Исследования показали наличие уже радиоактивных годичных колец последних лет, но основная масса древесного ствола остается чистой. Однако не в очень отдаленном будущем нас ожидает сложная проблема полностью загрязненной древесины из-за диффузии радионуклидов внутрь и дальнейшего отложения их в годичных кольцах.

Газогенераторные установки вырабатывают топливо в 2 раза более дешевое (на единицу теплотворной способности), чем мазут и природный газ, и окупаются в 2—2,5 года.

Пренебрежение энергетическим потенциалом наших лесов является расточительностью. Здесь надо учитывать положительный опыт скандинавских стран, который уже начинают использовать наши соседи — страны Балтии.

(Окончание в следующем номере)

## У Беларусі з'явілася магчымасць мець "сваю" ядзерную энергетыку на тэрыторыі Літвы

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН дырэктар Інстытута праблем энергетыкі Акадэміі навук Беларусі Аляксандр Міхалевіч, літоўскі ўрад дазволіў дырэкцыі Ігналінскай атамнай электрастанцыі назапашваць фонд сродкаў для вываду з эксплуатацыі 1-га і 2-га энергаблокаў гэтай АЭС у наступным стагоддзі па меры вычэрпвання рэсурсу іх работы і даручыў падрыхтаваць прапановы па ахове выводзімых з эксплуатацыі блокаў. Адным з магчымых варыянтаў, якія раней ужо прапаноўваліся беларускаму боку, з'яўляецца будаўніцтва 3-га энергаблока Ігналінскай АЭС Беларусі сумесна з Літвой.

Такі варыянт, як лічыць член-карэспандэнт А.Міхалевіч, мае цікавасць для беларускага боку з прычыны з'яўлення "сваёй" крыніцы электраэнергіі за межамі рэспублікі. Прэцэдэнт сумеснага выкарыстання АЭС у свеце ёсць: станцыя на франкабельгійскай мяжы.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ,**
**БелаПАН.**

## Брэстчане збудавалі сабе кватэрны камунізм

**Сёння кожны трэці брэстчанін не плаціць за кватэру. Доўг гараджан жыллёвай службе складае ўжо больш за 1,5 мільярда рублёў.**

Па некаторых ЖЭСах неплацяжы "падбіраюцца" да паловы запланаваных штомесячных паступленняў. Усё гэта, у сваю чаргу, павялічвае і без таго складаную сітуацыю камунальшчыкаў з разлікам за цяпло і электраэнергію. Іх запазычанасць у цяперашні час складае 15 мільярдаў рублёў.

**БЕЛТА.**

## На открытие новых белорусских посольств в казне нет денег

**"Открытие новых дипломатических представительств Беларуси за рубежом в будущем году пока не планируется", — об этом заявил министр иностранных дел Владимир Сенько на прошедшем в МИДе республики брифинге.**

Но это ни в коем разе не говорит о нежелании республики устанавливать более тесные контакты с мировым сообществом. Дело в том, что открытие посольства или консульства, по словам министра, ложится тяжким бременем на республиканский бюджет. Глава белорусского внешнеполитического ведомства считает, что увеличение количества дипломатических представительств Беларуси не должно быть самоцелью. "К сожалению, мы не можем охватить не только весь мир, но даже иметь посольства в тех государствах, в сотрудничестве с которыми республика наиболее заинтересована", — отметил он.

В то же время предполагается преобразовать в посольства Генеральные консульства республики в Италии и Румынии, правда, без увеличения количества сотрудников. "Такой уровень представительств Беларуси в этих странах в настоящее время остро необходим для республики", — подчеркнул Владимир Сенько.

**Игорь РУБАН,**
**БЕЛТА.**

## У бліжэйшы час на тэрыторыі Беларусі застанецца ўсяго 9 расійскіх мытнікаў

Як паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Расійскай Федэрацыі Валерый Драганаў, цяпер на тэрыторыі Беларусі на розных мытных пунктах сумесна з беларускімі калегамі працуюць каля 40 расійскіх мытнікаў, што прадугледжана ўмовамі пагаднення аб Мытным саюзе. Аднак, паводле слоў В.Драганава, асабіста ён заўсёды быў прыхільнікам таго, каб расійскія мытнікі як мага хутчэй пакінулі тэрыторыю Беларусі. Намеснік кіраўніка расійскага мытнага камітэта таксама паведаміў, што ў бліжэйшы час у рэспубліцы застанецца ўсяго 9 прадстаўнікоў гэтага ведамства, якія будуць працаваць "на асабліва важных напрамках". З памяншэннем колькасці расіян на беларускіх мытнях, хутчэй за ўсё, зменяцца і іх функцыі. В.Драганаў мяркуе, што ў першую чаргу яны будуць заключацца ў аналізе абстаноўкі на адзінай мытнай прасторы, кантролі выканання заканадаўчых і нарматыўных актаў, рэгламентуючых існаванне і функцыянаванне Мытнага саюза, а таксама паступлення сродкаў у бюджэты Расіі і Беларусі.

На працягу якога часу расійскія мытнікі будуць знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, В.Драганаў адказаць не змог, спаслаўшыся на тое, што такія пытанні павінны вырашацца выключна на міждзяржаўным узроўні.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ,**
**БелаПАН.**

## Падвядзены вынікі прайшоўшага ў Мінску "Кірмашу вакансій"

**"Кірмаш" наведалі каля 15 тысяч чалавек (у мінулым годзе — звыш 10 тысяч), 1834 з іх звярнуліся па дапамогу ў працаўладкаванні. І гэта няпоўная статыстыка.**

Як сцвярджаюць арганізатары "кірмашу", многія знайшлі працоўнае месца, звярнуўшыся адразу да прадстаўнікоў 47 прадпрыемстваў, устаноў, фірмаў, якія прынялі ўдзел у "кірмашы". Так, на ВА "Інтэграл" уладкаваліся 65 чалавек, у аўтапарк N 4 — 70, на завод аўтаматычных ліній — 20, на МАЗ — 16 чалавек.

Вядома, далёка не ўсе знайшлі тое, што шукалі. Гэта і зразумела, бо з усіх прапаноў больш за 80 працэнтаў прыпадала на рабочыя спецыяльнасці з сярэднім заробкам 400 тысяч рублёў.

Але "кірмаш" даказаў сваю эфектыўнасць. Дастаткова параўнаць: за дзевяць месяцаў гэтага года ўсімі раённымі службамі занятасці Мінска працаўладкаваны 4141 чалавек. А на "Кірмашы вакансій" за адзін няпоўны працоўны дзень — звыш паўтысячы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ,**
**БелаПАН.**

**Честь имеем...**

# Не нужно заниматься очернительством Богданкевича. Лучше открыто посмотреть правде в глаза

Редакционный порог переступил уже немолодой человек. Высокий, интеллигентного вида, с сединой на висках. Присев, он спокойно сказал: "Я не с улицы, вот мой паспорт..." Посетитель достал из дипломата и положил на стол сразу несколько документов. Стало ясно: речь пойдет о нашумевшей истории со слиянием двух банков — Сберегательного и Беларусбанка.

— Вы видите, какую массированную кампанию развернули против Богданкевича за то, что он честно сказал: мол, прежде чем объединять эти два банка, нужно серьезно разобраться с их финансовым положением, — приглушенным голосом подчеркнул наш гость.

Внимательно слушая посетителя, я тут же вспомнил недавнюю "антибогданкевичскую" статью некоей Татьяны Мокатовой, которая была напечатана почему-то сразу в нескольких государственных газетах. Впрочем, "почему-то" я зря написал. Налицо выполнение официальной прессой социального заказа: приказано очернить главного экс-банкира — очерним. Жаль, что некоторые коллеги, забывая о чести и достоинстве, как прислуживали многие годы, так и прислуживают, подмачивая журналистскую репутацию подобными публикациями. И тут нельзя не согласиться с утверждением пришедшего в редакцию человека:

— В работе Национального банка, безусловно, есть упущения, но почему о них так рьяно заговорили сейчас, когда Станислав Богданкевич потребовал прояснить картину с Беларусбанком? Во-первых, заметьте, в комиссию по проверке Нацбанка включены представители именно Беларусбанка, хотя в республике насчитывается десятки других коммерческих банков.

Человек, пришедший в редакцию, продолжал размышлять, а я, взяв со стола одну из положенных бумажек, стал внимательно изучать. "Баланс головного отделения АКБ "Беларусбанк" на 01.09.95г." — так озаглавлен документ.

Заметив мою любознательность, редакционный гость стал комментировать:

— Обратите внимание. Имея своих капиталов в пределах 80 миллиардов рублей, на собственные нужды расходуются почти 200 миллиардов рублей. Выходит, для строительства офисов, приобретения лимузинов, на другие цели использовали деньги вкладчиков. Рано или поздно, но такой подход закончился бы крахом. В один из дней пришел бы вкладчик в банк, а ему сказали бы: "Вместо денег получайте два колеса от "Мерседеса"... Ясно как божий день: банк вел убыточную деятельность.

Мой собеседник взял карандаш, обвел кружочком несколько балансовых цифр и продолжал резюмировать:

— А разве ни о чем не говорит тот факт, что прочие активы, то есть невыясненные, составляют в балансе головного отделения Беларусбанка 27 процентов? Получается, что треть баланса как бы скрытая. Обычно эта цифра при хорошей работе банка приближается к нулю. Значит, не все гладко с учетом...

— А как головное отделение Беларусбанка работает с физическими лицами? — поинтересовался я.

— На мой взгляд, почти не работает. Из документов видно, что вклады и депозиты граждан в "зайчиках" составляли на 1 сентября всего 2,7 миллиарда рублей, что составляет доли процента от общего баланса. Понятно, говорить о том, что головной банк имеет успешный опыт работы с физическими лицами, в данном случае не приходится.

Наш гость еще минут двадцать продолжал анализировать баланс головного отделения (который, кстати, составляет примерно 80 процентов всего Беларусбанка), а я делал в своем блокноте пометку за пометкой. Вот некоторые записи:

— активные операции, т.е. ссуды, были ниже всех допустимых норм: на 1.09.95, например, — 9 процентов при норме 60 процентов;

— основным источником привлечения средств и поддержания существования банка являются межбанковские кредиты. Их взято 140,5 млрд руб., что значительно превышает выданные ссуды.

— в целом баланс Беларусбанка напоминает баланс дружественного ему банка "Дукат", недавно прекратившего все платежи.

**Имея своих капиталов в пределах 80 миллиардов рублей, в "Беларусбанке" на собственные нужды расходуются почти 200 миллиардов рублей. Выходит, для строительства офисов, приобретения лимузинов, на другие цели использовали деньги вкладчиков. Рано или поздно, но такой подход закончился бы крахом. В один из дней пришел бы вкладчик в банк, а ему сказали бы: "Вместо денег получайте два колеса от "Мерседеса"... Ясно как божий день: банк вел убыточную деятельность.**

У профессиональных журналистов есть неписаное правило: доверяй, но проверяй. А потому, когда наш гость покинул скромные редакционные апартаменты, я стал думать, как подтвердить кое-какие выкладки. Пришлось прибегнуть к газетным подшивкам. Отыскав в одной из республиканских газет статью опытнейших специалистов банковского дела, я с карандашом в руках пробежал все ее абзацы. Поскольку опровержения на данную публикацию не было, то несколько абзацев, я считаю, необходимо процитировать:

"В течение 1994—1995 гг. Беларусбанк испытывал серьезные затруднения с поддержанием своей платежеспособности. На 1 сентября с.г. ... объем привлеченных кредитных ресурсов на межбанковском денежном рынке у него достиг 272,1 млрд, что составляет 79,1 процента от кредитных вложений. Это весьма рисковая величина. Для сравнения: доля краткосрочных ресурсов, приобретенных на межбанковском рынке у Белпромстройбанка — 7,3 процента, Белбизнесбанка — 8,5 процента, Белвнешэкономбанка — 5,3 процента.

Всего за 8 месяцев покупка Беларусбанком на рынке краткосрочных денежных ресурсов выросла с 74,4 млрд до 272,1 млрд, или в 3,65 раза, а доля этих ресурсов в его кредитных вложениях увеличилась на 20 процентных пунктов. Это привело к тому, что другие коммерческие банки стали воздерживаться от продажи Беларусбанку краткосрочных ресурсов и основным потенциальным источником их приобретения стал Сбербанк.

Второй год подряд Беларусбанк не имеет прибыли. Согласно расчету платежеспособности, представленному Национальному банку за подписью г-жи Винниковой, по данным на 1 января с.г., банк имел убыток в 1,7 млрд рублей. По аналогичному отчету на 1.06.95 г., убыток составил уже 41,8 млрд рублей (отчет подписан заместителем председателя правления Беларусбанка В.З.Станкевичем).

Более того, при отсутствии фактической прибыли Беларусбанк десятки миллиардов рублей израсходовал на приобретение автомашин, оборудования, строительство офисов, т.е. профинансировал их приобретение за счет вкладов юридических лиц и граждан.

В нарушение законодательства в банке практиковалось установление льготных процентов по кредитам и депозитам для собственных работников и акционеров. Заниженных — по кредитам и завышенных — по депозитам. Практиковалось зачисление собственным работникам заработной платы в накопительные вклады с досрочным начислением и выплатой вперед за год повышенных процентов.

Банк проводил необоснованно рисковую кредитную политику. По официальным данным, объем сомнительных к погашению долгов по рублевым кредитам составляет более 57 млрд рублей. Это явно заниженные данные. Причем по ним не в полной мере сформированы обязательные резервы, чем искусственно завышались показатели прибыльности.

Поэтому всякие попытки руководства Беларусбанка видеть в принципиальной позиции председателя Национального банка его политическую заангажированность не имеют под собой никаких оснований. Мы полагаем, что общественность способна в этом разобраться".

Редакция "Народной воли" также считает, что люди не слепые, как бы их ни околпачивали, они, получив достоверную информацию, способны сами во всем разобраться. Именно поэтому мы и решили рассказать своим читателям о диалоге с нежданным визитером. Именно поэтому в заключение статьи хочется сообщить и кое-какую информацию о другом объединяющемся банке — Сберегательном. Оказывается, и у него дела не очень гладкие. Убытки превысили более 60 миллиардов рублей. Просроченная задолженность составляет около 45 миллиардов рублей. Большие суммы собственных средств были отвлечены на капитальное строительство, вложены в уставные капиталы различных акционерных обществ, в том числе и за пределами Беларуси, затрачены на в покупку мебели, автомобилей и т.д.

Что ж, те, кто задумывал эксперимент с объединением двух банков — Беларусбанка и Сберегательного, — судя по всему, смелые люди, да и преследовали, пожалуй, определенные цели. Но жизнь не один раз подтверждала известную истину: когда сходятся глухой со слепым — результат, как правило, плачевный. Не окажется ли он таким и в данном случае?

**Владимир КОРНЕЕВ.**

